„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr

# Ніва

№ 22 (118) БЕЛАСТОК, 1 ЧЭРВЕНЯ 1958 г. ГОД III

# Ваяводскі агляд
## беларускіх мастацкіх калектываў

Ваяводскі агляд беларускіх мастацкіх калектываў, які адбыўся 25 мая ў зале Таварыства польска - савецкай дружбы ў Беластоку быў сапраўдным падсумаваннем працы беларускіх мастацкіх калектываў на Беласточчыне. Агляд ператварыўся ў багаты разнастайны і цікавы канцэрт.

У аглядзе прынялі ўдзел: Беластоцкі мастацкі калектыў песні і танца, з Бельска—балетная група, дуэт акардэаністаў, трыё, дзіцячы калектыў мандаліністаў, з Гарадка і Скупава — драмгурткі.

Бесканкурэнцыйным аказаўся Беластоцкі мастацкі калектыў песні і танца, які атрымаў высокую пунктацыю кваліфікацыйнай Камісіі і заняў першае месца. На другім месцы знайшліся мастацкія калектывы з Бельска, з тым што найбольш пунктаў з гэтых калектываў сабрала балетная група. Трэцяе месца заняў драмгурток з Гарадка і чацвёртае — драмгурток з вёскі Скупава ў Гайнаўскім павеце.

Хор з Беластока выступіў з песнямі: «Бульба», «Кракаўскае вяселле», «Гэта было летам», «Люблінская полька», «А ты ехаў».

Аб Беластоцкім беларускім хоры можна цяпер сказаць самае найлепшае: добрая апрацоўка, уласцівая рыфмічнасць, даволі добры падбор рэпертуара.

Трэба сказаць, што Г. Зюлкоўская паставіла хор моцна на ногі і напэўна не прынясе ён нам сораму ў Варшаве.

Не менш пахвалы належыцца Т. Гіжэўскай за працу з балетнай групай. Калі гэта група знаходзіцца на сцэне гледач адчувае зграны, добры калектыў, які шмат працуе над сабой, над павышэннем сваёй формы.

Балетная група выступіла з танцамі: «Лявоніха» і «Крыжачок».

Большае аднак уражанне на прысутных зрабіла балетная група з Бельска, таму, што выступіла з новым рэпертуарам, які ўпершыню з'явіўся на беластоцкай сцэне.

Так жартоўны танец «Юрачка», як і рускі жартоўны танец у выкананні бельскай балетнай групы выпалі надзвычай добра. Я. Крупа выконваючы сольную партыю ў «Юрачцы» здавалася быццам не кранаўся нагамі падлогі, а проста лётаў, як матылёк у паветры.

Добра таксама выпаў дуэт гарманістаў П. Нявінскі і Ж. Зайчык. Слабей выпала трыё і дзіцячы калектыў мандаліністаў.

Трэба яшчэ працаваць над гэтым маладым калектывам, таму што мае ён вялікія перспектывы развіцця. З гэтага калектыву заслугоўвае на ўвагу саліст Ю. Гаўрылюк, які даволі добра выканаў дзве рускія песні: «Байкал» і «Я вам песенку спою».

З двух выступаючых драмгурткоў добра выпаў драмгурток з Гарадка пад кіраўніцтвам Н. Мушынскай. Надзвычай трапны жыццёвы змест аднаактовай п'есы Пальчэўскага «Суседка», добрая рэжысерыя і добрае выкананне прыкоўвалі ўвагу залы. Надзвычай добра выконвалі свае ролі Н. Цыванюк, І. Рашкевіч і Н. Мушынская.

Крыху слабей выпаў драмгурток з Скупава, які выступіў з п'есай А. Чэхава «Мядзведзь». Хоць ігра цэлага калектыву была даволі добрая, смелая, аднак кідаюцца ў вочы рэжысёрскія недахопы.

На канцэрт нацыянальных меншасцей, які адбудзецца 2 чэрвеня ў Варшаве паедзе Беларускі мастацкі калектыў песні і танца з Беластока, балетная група з Бельска і трыё з Гарадка. Жадаем поспехаў у распаўсюджванні нашай беларускай культуры, нашых прыгожых песень і танцаў

В. Ш.

## Лічбы і факты

У 1955 годзе фонд платы ў дзяржаўнай прамысловасці склаў лічбу 32.384,6 мільёнаў злоты. А ўжо ў 1956 годзе фонд платы павялічыўся да 37.867,7 мільёнаў злоты. Значыць, у параўнанні да 1955 года фонд платы павялічыўся на 17 прац.

*

Па афіцыйных дазволах у 1938 годзе было зарэзана на патрэбы насельніцтва 1.208 тыс. тон хатняй жывёлы, як свіней, кароў, авечак і г. д. У 1956 годзе было зарэзана 1.904,4 тыс. тон. Апрача гэтага, колькасць зарэзанай жывёлы без дазволаў разлічваецца на 546,9 тыс. тон.

У 1955 годзе на Беласточчыне налічвалася 456,2 тыс. штук жывёлы, у гэтым кароў — 291,9 тыс. штук.

*

У 1938 годзе ў Польшчы радыёпрыёмнікі мела 922 тыс. асоб. А ў 1956 г. радыёпрыёмнікі мае 3.625 тыс. асоб.

*

У 1955 годзе ў пачатковых школах навучалася 3.386.431 вучняў. За навучальны год 1956/57 гады ў пачатковых школах навучалася ўжо 3.654.604 дзяцей.

*

У 1955 годзе зарэгістравана 821,7 тыс. адміністрацыйных кар. За наступны, 1956 год, зарэгістравана толькі 489,9 тыс. адміністрацыйных кар. Сведчыць гэта аб узрастаючай грамадскай дысцыпліне народа.

*

У 1955 годзе ў цэлай краіне налічвалася 56.701 студэнтаў, якія пражывалі ў стацыянарах. А ў 1956 г. гэтая лічба ўзрасла да 57.118 асоб.

## У Арэхавічах — беларуская школа

Ад пэўнага часу, жыхары Арэхавіч (Бельскі павет) дамагаліся сарганізавання ў іх вёсцы беларускай школы. Як даведваемся, Аддзел асветы пры Ваяводскай Радзе ў Беластоку зацвердзіў патрабаванне Арэхавіч. Пачынаючы ад 1 верасня гг. будзе тут чатырохкласная беларуская школа.

У сучасны момант падрыхтоўваецца ўжо памяшканне для будучай школы і патрэбныя навучальныя дапаможнікі.

(с. я.)

## Сустрэча маладой беларускай інтэлігенцыі

У мінулую суботу (24—V.) у памяшканні Галоўнага Праўлення БГ-КТ адбылася сустрэча маладой беларускай інтэлігенцыі горада Беластока.

На наладжанай сяброўскай вечарынцы прысутнічаў сакратар ГП БГ-КТ В. Швед. У сваёй прамове запэўніў прысутных ва ўсебаковай падтрымцы ўлад Беларускага таварыства для такога роду ініцыятывы.

Сустрэча прайшла ў цёплай і сардэчнай атмасферы.

Пастаноўлена наступную сустрэчу правесці ў значна шырэйшым крузе мясцовай маладой беларускай інтэлігенцыі і выступіць з канкрэтнымі прапановамі адносна арганізацыі таварыскага, культурнага і навуковага жыцця ў асяроддзі беларускай інтэлігенцыі Беластока.

(ся)

## Беларускія настаўнікі едуць у сталіцу Беларусі

У рамках культурнага абмену паміж Беларуссю і Польшчай, 10 ліпеня выязджае ў Мінск 15-ціасабовая група настаўнікаў беларускіх школ. Пад вокам беларускіх савецкіх спецыялістаў пройдуць яны курс па беларускай мове і літаратуры.

За час пабыўкі ў сталіцы Беларусі, нашыя настаўнікі азнаёмяцца з культурна - навуковымі дасягненнямі рэспублікі.

(с. я.)



*Выступае дзіцячы калектыў мандаліністаў пад кіраўніцтвам (іграе на гармоніі) Пётра Нявінскага. Соло спявае Юры Гаўрылюк.*



*На сцэне драматычны мастацкі калектыў з Гарадка пад кіраўніцтвам Ніны Мушынскай. Фрагменты з пастаноўкі п'есы «Суседка» Пальчэўскага.*

## Тэатральныя мары

Ці ты, дарагі чытач, гледзячы калі-небудзь на што-небудзь, марыў аб гэтым для сябе.

Нейкае дзіўнае пытанне, хіба скажаш і незразумелае. Пастараюся сказаць ясней. Калі ты кавалер, дык хіба гледзячы на маладую, стройную дзяўчыну марыш мець такую жонку, калі ты маладая дзяўчына, дык гледзячы на рослага, стройнага хлопца, марыш мець такога мужа, калі ты бацька, або маці, дык гледзячы на сваіх дзяцей марыш аб шчаслівай для іх будучыні (будучыні, у якой не будзе іх здароўю і жыццю пагражаць атамная ці вадародная бомба), калі ты гаспадар, дык гледзячы на засеяныя свае палеткі, марыш аб тым, каб сабраць прыгожы ўраджай, калі ты настаўнік, дык гледзячы на сваіх вучняў, марыш каб даверанае табе бацькамі і дзяржавай маладое пакаленне выхаваць на будаўнікоў лепшага, шчаслівейшага справядлівага парадку, які проста называецца соцыялізмам.

Нядаўна, бо якраз 26 мая, я таксама марыла ў падобны спосаб. У якіх абставінах і на што гледзячы?

Седзячы ў другім радзе ў тэатры імя А. Венгеркі ў Беластоку і гледзячы на выступленне яўрэйскага тэатра з Варшавы. Шмат хто мо' ўжо і здагадаўся, аб чым гэта я ў такі час магла марыць. Я марыла аб падобным Беларускім тэатры ў Польшчы. Я марыла сардэчна, а нават (прызнаюся) з зайздрасцю. Мне ўспомніліся артыкулы ў «Ніве», дзе аўтары неабвяржыма ўказвалі на патрэбу арганізавання Беларускага тэатра ў Польшчы. Артыкулы сталіся прычынай дыскусій над гэтым пытаннем сярод тзв. актыву Таварыства. І не ведаю, ці то з прычыны «фінансавых сродкаў» ці чаго іншага, на дыскусіях і скончылася.

А мо' дыскусія мела месца толькі таму, што надта-ж ужо модным з'яўляецца тэрмін «шырока абмеркаваць гэтую праблему».

Шырокую ў часе?

Але гэта толькі мае рэфлексіі. Магчыма, што і без іх абышлося-б, бо ўласцівая мэта — сказаць аб яўрэйскім тэатры.

Што-ж, тэатр вельмі добры, ігра акцёраў на высокім узроўні, праекты і выкананне дэкарацый надзвычай цікавыя і вынаходлівыя. Тэатр паставіў п'есу Аўраама Гольдфадэна «Кунэ Лемл» на яўрэйскай мове. Выступленне тэатра было прынята вельмі цёпла. Вось так бы выглядала афіцыйная, справаздача. Але мне вельмі хочацца дадаць да яе яшчэ ад сябе крыху.

Не разумела я мовы акцёраў, але таго чаго баялася, ідучы ў тэатр, што буду сядзець як на «турэцкім казанні» не было і следу. Лёгкі, прыемны, каларытны вобраз створаны рэжысёрам і акцёрамі прымушаў без слоў разумець, смяяцца, адным сімпатызаваць, іншым жадаць няўдачы.

Дружнасць, сапраўды прыяцельскія адносіны, аднолушнасць, натуральнасць суправаджалі пастаноўцы. І гэта было вельмі добрае. Атрымоўвалася ўражанне, што бачыш не акцёраў на сцэне, а вобраз жыўцом выразаны з жыцця.

ЖЭНЯ ДУБОК

**Прыпамінаем...**

**...што да 10 чэрвеня г. г. трэба зрабіць падпіску на «Ніву», на III квартал г. г.**

 

**Ад нашага карэспандэнта**

# Веснавая Масква

Шпарка імчыць па сталёвых бліскучых рэйках цягнік, стукаюць на сутыках колы вагонаў. Мільгаюць за акном назвы станцый: Мажайск, Галіцына, і іншыя. Паабапал чыгункі прасціраецца тыповы падмаскоўны пейзаж — бярозавыя гаі, лясы і пералескі, дачныя паселішчы. І неяк не верыцца, што тут звыш поўтара дзесятка гадоў назад вяліся жорсткія, крывавыя бойкі з гітлераўскімі арміямі, што гэтыя гаі і лясы, схілы ўзгоркаў былі арэнай смяротнага змагання, што зямля тут была ўзарана не плугам, а снарадамі, мінамі і бомбамі, перакапана траншэямі, аблытана калючым дротам.

Па многіх прыметах— па тыпу будынкаў, па іх колькаснасці, па мноству тэлевізійных антэнаў і іншых — адчуваецца блізкасць вялікага горада. І сапраўды, далёка справа, у блакітным мроіве з'яўляюцца так знаёмыя абрысы будынка Маскоўскага універсітэта, што ўзняўся сваім вострым шпілем у яснае вясновае неба. Яшчэ крыху часу, і цягнік спыняецца ля доўгіх платформ Беларускага вакзала. Тут як і звычайна на любым вакзале: мітусня, пасажыры з валізкамі і клункамі гурбамі проста выпальваюцца на перон, спяшаюць да выхаду. Адсюль дарогі іх разыходзяцца — хто дамоў, хто на іншы вакзал, каб ехаць далей, хто ў адзін з шматлікі. гатэляў.

Цэнтральная магістраль Масквы — вуліца Горкага. Пачынаецца яна ад плошчы перад Беларускім вакзалам, дзе ўзвышаецца помнік вялікаму пісьменніку М. Горкаму, і цягнецца амаль да самай Чырвонай плошчы. Паабапал вуліцы ўзвышаюцца вялікія шматпавярховыя камяніцы, у першых паверхах якіх суцэльнымі шэрагамі цягнуцца магазіны. У магазінах шматлюдна — кожнаму патрэбна нешта купіць, але спрытныя і надзвычай увішныя прадаўцы хутка абслугоўваюць пакупнікоў. І калі камунебудзь бракуе патрэбнага памеру ці фасону тавару, то можна запоўніць адмысловую картку, выпісаць памер, фасон, колер касцюма ці паліто і праз дзеньдругі ён атрымае яго.

Дрэвы гарадскіх бульвараў пакрыты першай зелянінай. Тут таксама, асабліва ў цёплыя дні, многа людзей, забаўляюцца дзеці.

Нельга не здзівіцца вялікаму будаўніцтву, што вядзецца ва ўсіх ускраінных раёнах горада і асабліва ў яго поўднёва - заходняй частцы. Усюды, дзе ні глянь — відаць цэлы лес пад'емных вежавых кранаў.

Глыбока пад зямлёю пралеглі ва ўсе канцы Масквы тунэлі метрапалітэна. У гэтым годзе пабудавана новыя станцыі — «УСГВ», «Ленінскія горы», «МДУ» і іншыя. Простыя па архітэктуры, зручныя для карыстання яны робяць добрае ўражанне. Усе станцыі метро абсталяваны адным цікавым прыстасаваннем, якога раней не было: вялікая карта ліній метрапалітэна. Для таго, каб даведацца, якім маршрутам вам ехаць, дзе рабіць перасадкі, трэба націснуць кнопку з абазначэннем патрэбнай станцыі і на карце электралямпачкі аўтаматычна пакажуць вам шлях.

Надзвычай цікавая ў гэтым годзе т. зв. «Маскоўская тэатральная вясна». На гастролях у Маскве выступаюць Талінскі, Омскі і іншыя тэатры, чэхаславацкі тэатр «Д—34», які паказвае спектаклі — «На кірмашы», «Опера жабракоў», «Лавец пацукоў», «Кожнаму па заслугах» і іншыя. Выступаў тут і Данецкі шахцёрскі ансамбль «Маладая гвардыя». Гаворачы аб ім, нельга абмінуць, каб не сказаць некалькі слоў пра канцэрт гарнякоў — столькі святла, фарбаў, імклівасці ў выступленнях танцораў, столькі прыгожасці і лірычнасці ў выканаўцаў народных украінскіх песень.

На Чырвонапруднай вуліцы, побач Яраслаўскага вакзала звяртае ўвагу рэклама «Беларусь». Гэта прадуктовы магазін Міністэрства гандлю Беларусі. Тут мы знойдзем прадукцыю беларускіх заводаў і фабрык, калгасаў і соўгасаў — віно і фрукты, кансервы і папяросы, цукеркі і сала, каўбасу і масла. Унутры залы магазіна аздоблены ў беларускім нацыянальным стылю.

У Маскве працуе шмат музеяў, іх залы заўсёды поўны наведвальнікаў. Зараз у музеі ўсходняй культуры экспануецца выстаўка твораў малярства і мастацкай фатаграфіі Цэйлона, у музеі выяўленчага мастацтва імя Пушкіна — выстаўка помнікаў культуры і мастацтва Аб'еднанай Арабскай Рэспублікі.

Нядаўна адзначаўся дзень Перамо.і над фашыстоўскай Нямеччынай, які стаў традыцыйным святам народаў Савецкага Саюза. Вечарам Чырвоную плошчу запоўнілі тысячы масквічоў. Роўна ў дзесяць гадзін начное неба прарэзалі пукі пражэктарных праменняў, прагрымеў залп з гармат і ўвысь ўзняліся снапы рознаколерных ракет.

Відаць у гэты момант у памяці многіх на плошчы ўзніклі даўно адышоўшыя ў былое малюнкі — восень 1941 года, зацятыя бойкі на падходах да сталіцы, налёты варожых бамбардзіроўшчыкаў, праменні пражэктараў, што абмацваюць цёмнае восеньскае неба, разрывы снарадаў, збітыя гітлераўскія самалёты. А можа прыпомніўся і другі малюнак — сонечны вясновы дзень 9 мая



*Высотны будын.к і.а Смаленскай плошчы.*

1945 года. Тут-жа, на Чырвонай плошчы, весяліцца народ, што здабыў шматлікімі ахвярамі і крывёй перамогу над ворагам. Усюды чуюцца песні і музыка, радасць пануе навокал.

11 мая дзесяткі тысяч масквічоў з самага ранку накіраваліся ў павільёны - палацы і плошчы Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі. Пасля ўрачыстага мітынгу над павільёнамі ўзвіліся дзяржаўны сцяг СССР і сцягі рэспублік. У гэты дзень да познага вечара было шматлюдна на ўсіх плошчах і ў павільёнах выстаўкі.

А. С.

## Новыя кнігі

Апошнім часам на полках кніжных магазінаў паказалася кніжка ў цвёрдых вокладках, з чырвонымі супер - вокладкамі — найлепшая рэч Эрнестра Хемінгвая — «Каму б'е звон». Гэта кніжка аб змагаючайся Іспаніі 1936 г.

Партызаны на тылах ворага, вельмі рызыкоўныя, небяспечныя, баявыя аперацыі, каханне ў незвычайных умовах — такі больш - менш змест аповесці. Вядомыя нам такія кнігі, усе любім чытаць іх. І ў мінулыя гады былі яны найбольш чытанымі.

Кніжка «Каму б'е звон» адрозніваецца ад усіх вядомых нам кніжак аб вайне так спосабам, у які аўтар паказвае сваіх герояў, як і самым вобразам змагаючага свету. Хемінгвай выяўляе свой стыль званы бігавіярызмам (ад напрамку псіхалогіі аб той-жа назве, інакш псіхалогія паводзін).

Бігавіярысты сцвярджаюць, што ва ўчынках чалавека выяўляецца яго псіхіка, яны не прызнаюць прынцыпаў інтраспекцыі і аналізу пачуццяў, абмяжоўваючыся толькі да рэгістрыравання прыкмет і выяўленняў людскіх характараў. Хемінгвай не псіхалагізіруе, не робіць аналізу падрабязных перажыванняў сваіх герояў, апісвае толькі тое, што яны робяць і гавораць. Ён проста падае дакладную, сціслую, без лішніх уставак, рэляцыю.

Глыбока памыліўся-б той, хто ў простым стылю сцвярдзіў-бы прымітывізм пісьменніка. Стыль Хемінгвая з'яўляецца квінтэсенцыяй яго шырокіх ведаў аб апісаным прадмеце і аб глыбокім знаёмстве чалавечай псіхікі. Для таго, каб выступаючыя ў яго аповесці асобы былі жывымі людзьмі, нічым не напамінаючымі паперкавых герояў, пісьменнік павінен ведаць аб іх значна больш чым нам сказаў. Хемінгвай, як зрэшты сам аб гэтым сказаў, не гаворыць толькі аб тым, што яму вельмі добра вядомае. І менавіта таму дасягае належных мастацкіх эфектаў. Хемінгвая можна параўноўваць да зручнага штукара, які вельмі спрытна хавае перад намі свае намаганні, каб мы яшчэ больш захапляліся яго творам.

Хемінгвай быў вялікім сімпатыкам і абаронцам іспанскай дэмакратыі. Аднак, як пісьменнік побач геройства рэспублікі паказвае таксама цёмныя бакі. Разамкнутыя партызаны дзейнічаюць на тылах франксісцкіх войск. сярод якіх адбываецца ўся падзея, складаюцца з людзей, аб рознавідных індывідуальных прыкметах і вялікай розніцы калі разыходзіцца аб этычныя якасці. Аднак людзі гэтыя перад тварам смерці пратрываюць да канца ў пазіцыі найлепшых герояў.

Знамянальнымі з'яўляюцца загаловак і мотто кніжкі — «Не пытай, каму б'е звон; б'е ён табе» — гаворыць пісьменнік словамі англійскага паэта. Падзенне змагаючайся Іспаніі з'яўляецца падзеннем усіх людзей адданых прынцыпам свабоды і правоў чалавека.

Любоўныя моманты аповесці акрэсліваюцца найлепшымі крытыкамі як найлепшыя з тых, якія існуюць у сусветнай літаратуры. Кніжка папярэджана цікавым уступам перакладчыка Браніслава Зялінскага, які ў самых новых размалёўках паказвае постаць Хемінгвая. Як вядома, жыццё Хемінгвая ёсць не менш цікавым ад жыцця яго герояў. Гэта чалавек, якога жыццё надзвычай бурлівае, затое-ж шчасце проста гігантычнае. Ён са зброяй у руках прайшоў шмат войнаў і рэвалюцый, з самых цяжкіх абставін выходзіў жывым (напрыклад з двух самалётных катастроф). Шрамы на яго целе, як падаюць біёграфы, значаць каля 180 ран. Ва ўступе Зялінскага даведваемся, што гэты неспакойны дух, нібыта ўзор цвёрдай мужнасці, у істоце ўяўляе сабой мяккую, сентыментальную, баязлівую і забабонную, амаль жаночую душу (цікава!).

УЛАДЗІМІР ПАУЛЮЧУК

Б. Нікіцюк

# Людзі з КПЗБ

(Глядзі пачатак у 20, 21 №)

— Каты, не біце, — паспеў яшчэ вымавіць і абамлеў. Нешта хлюснула яму ў твар. Адчыніў рот, хапіў некалькі капеляк вады. Здрадзіў сябе — каты ўбачылі, што ён жыве, і сталі яшчэ горш яго мучыць. Павал пачуў выццё... Зацямненне свядомасці... Ізноў хлюст у твар. Выццё паўтарылася. Павал ледзь адкрыў залепленыя крывёю вочы... Зразумеў, што гэта ён сам так вые ад болю.

— Хто з'яўляецца арганізатарам КПЗБ? — чуў нейкі глухі, быццам з далёку даходзячы, голас. Не мог сабраць думак. КПЗБ, аб што яму разыходзіцца — не разумее. Хіба я што сказаў? — круціцца ў мутных думках Паўла.

— Хто належыць да КПЗБ, дзе кіраўніцтва арганізацыі?! Павал расплюшчвае вочы. Бачыць усе тыя-ж самыя твары катаў. Паволі стаў прыходзіць у прытомнасць.

— Дурні, чаго ад мяне хочаце? — ледзь вымавіў са злосцю і раптам адчуў моцны ўдар жалезам у зубы. Ізноў зрабіўся непрытомным.

Аляксей Трашчотка быў яшчэ горш трэціраваны. Горла запхнулі яму брудлай шматай, у нос і рот налілі воцату і нафты. Аляксей зрабіўся цалкам штыўным. Пасля таго каты выцягнулі анучу, адлілі вадою, раздзелі да гала і вялікімі абцугамі сталі сціскаць жывот і грудзі. Аляксей адчуваў страшэнны , праніклівы боль — віўся, як вужака.

Адзін з катаў сціснуў цела жалезнымі клешнямі. Аляксей адразу абамлеў. Ажыў ізноў, калі палілі яго вадою. Парушыў брывом.

— Жыве, дрэнь, цвёрды.

Сказалі ўстаць. Калючы боль авалодаў усім целам Аляксея, ён ледзь зрабіў адзін, другі, трэці крок, як ізноў пасыпаліся ўдары палкамі, шваранамі, жалезнымі прутамі. Поўмёртвы апаў на бетон. Ізноў палілася вада.

— Ну комуніст, гавары, хто з табою быў у КПЗБ? — пачуў над сабою голас.

Аляксей паглядзеў напоўрасплюшчаным, акрываўленым вокам, скрыгатнуў зубамі і астаткам сіл вымавіў: — Нічога не скажу, фашысцкая скаціна...

Раптам абутая нага шпурхнула балюча ў жывот. Аляксею забіла подых. Потым другі і трэці штурхель — проста ў твар. Б'юць палкамі, як цапамі, калоцяць, льюць ваду, а потым ізноў б'юць.

Катавальню праходзілі ўсе арыштаваныя КПЗБ-оўцы. Цвёрдыя як сталь маўчалі, але часам здаралася, што хваравітыя арганізмы не маглі перанесці моцнага болю. Поўпрытомныя не вытрымоўвалі і прызнаваліся. Так здарылася з Дарафеюкам. Слабы здароўем, хваравіты, не вытрымоўваючы болю прызнаў сябе вінаватым і згадзіўся падпісаць дэкларацыю аб супрацоўніцтве з «Дэфай». Калі вярнуўся з допыту — прызнаўся таварышам.

— Не змог вытрымаць, даруйце і паверце, не вытрываў я, падпісаў, але нікога з вас не выдам. Прысягаю, верце — плакаў як дзіцё. — Каб адразу забілі, а то катуюць, не перанёс. Даруйце браткі.

Судовы разбор ваяводскага суда адбыўся на выязднай сесіі ў Бельску - Падляскім у выніку чаго быў выданы наступны прысуд:

Аляксей Трашчотка на 5 год турмы
Аляксандр Шварц — 4 гады турмы
Марка Вошчэнка — 4 гады турмы
Даніла Янчук — 4 гады турмы
Павал Трашчотка — 4 гады турмы.

### Турэмная комуна

Пасля аб'яўлення пастановы суда вязні былі прывезены ў Беласток. Цяжкія муры аддзялілі іх ад свету. Вокны камер закратаваныя, абкутыя жалезныя дзверы, ля якіх пастаянна вартавалі стражнікі і паліцыя. У камерах турмы КПЗБ-оўцы з Новасад сустрэліся са старымі, загартаванымі комуністамі, ад якіх даведаліся аб турэмным жыцці. Комуністы прынялі КПЗБ-оўцаў у турэмную комуну. Сакратаром камітэта групы комуны быў выбраны Павал Трашчотка. Задачай яго было:

(Працяг на стар. 6)



 

